## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

**З дзейнасьці Беларускае Нацыянальнае Самапомачы**

**Ува ўсіх гарадох Беларускія Народныя Дамы**

Наўзор Нац.-Сац. С. Гэнэральны Камісар Гауляйтэр Вільгэльм Кубэ ўвосень мінулага году паклікаў да жыцьця ў Камісарыяце Беларусі Беларускую Нацыянальную Самапомач. На чале яе стаіць, як мы ўжо пісалі, вядомы беларускі дзеяч Др. Ів. Ермачэнка. Беларуская Нацыянальная Самапомач разьвіла шырокую дзейнасьць сярод беларускага насельніцтва. У Менску ў двух сталоўках сталуецца цяпер штодня 1000 асобаў. Ежа выдаецца часткова бясплатна, часткова па нізкай цане 10 фэнігаў. Ад паловы кастрычніка мінулага году да 1-га чэрвеня выдана гэтымі сталоўкамі 55,000 абедаў, з іх звыш 12.000 бясплатна. Амаль ува ўсіх гарадох краю Беларуская Нацыянальная Самапомач зарганізавала Беларускія Народныя Дамы, якія зьяўляюцца вогнішчамі культурнага жыцьця й народнае творчасьці. Пры Народных Дамох вядуцца шматлікія курсы.

**Беларуская Служба Будовы.**

У Менску сарганізавана Беларуская Служба Будовы, якая складаецца з беларускай моладзі. Кіраўнікамі яе зьяўляюцца асобы з нямецкае Дз. С. П. (Дзяржаўнае Службы Працы). Заданьнем аддзелаў Службы Працы мае быць выконваньне ўсялякай работы пры адбудове Менску, а пазьней і ў шырэйшым абсягу.

**Кары за ўжываньне чужых моваў**

Каб спыніць дэманстрацыйныя спробы некаторых элемэнтаў ужываць у часе ўрадаваньня чужыя мовы да насельніцтва, у некаторых урадах Слонімскае акругі да апорных асобаў, ужываючых апрача беларускай і нямецкай іншыя мовы ў часе ўрадаваньня, будуць стасавацца кары ад 50 да 300 рублёў.

**ЦАРКОЎНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.**

У першых днях красавіка с. г. у Жыровічы прыехаў найсьв. **Апанас,** прызначаны Саборам Эпіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Царквы кіраваць Наваградзка-Баранавіцкай эпархіяй.

Найсьв. Уладыка з усёй энэргіяй прыступіў да працы над арганізацыяй эпархіяльнага жыцьця. Яго найсьв. выдаў распараджэньні аб ужываньні беларускае мовы ў царкоўных казаньнях, урадаваньні й навучаньні рэлігіі. У распараджэньні аб ужываньні беларускае мовы найсьв. Апанас, паміж іншым, гаворыць так:

**«Беларуская мова для Беларуса ня ёсьць чужая, але родная, матчыная. Мова —гэта сэрца народу. Зьнікне мова — зьнікне народ. Хто чураецца сваёй роднай мовы, той у самае сэрца раніць свой народ. Беларускае праваслаўнае сьвятарства павінна быць родным для беларускага народу й гаварыць мовай сваіх прыхажан. Беларуская мова зьвязвае кроўнымі вязямі праваслаўнага беларускага сьвятара з сваімі прыхажанамі — Беларусамі».**

# Фінскія народы ў Савецкім Саюзе

**Этналягічныя дасьледаваньні над палоннымі. (Наскольні блізка фіны зроднены з вугорцамі па мове?)**

У Эўропе існуюць толькі тры ня індагерманскія мовы: вугорская, фінская й эстонская. Яны належаць супольна да фінска-вугорскага кораня, і на гэтых мовах гаворыць каля 20 мільёнаў людзей. Акрамя таго існуе рад розных народных адгаліненьняў гэтага фінска-вугорскага языковага кораня, якія пражываюць на абшарах Савецкага Саюзу. Да іх належаць рэшткі асеўшых каля Ленінграду Вотаў, якія гавораць дыялектам блізкім фінскае мовы і адначасна з фінамі й эстонцамі належаць да балтыцка-фінскага кораня. Ад іх трэба адрозьніваць гэтак званых волжскіх фінаў, мардвінаў й чэрамісаў, якіх разам нарахоўваецца каля 2 мільёнаў . Іх мова й культура па сваёй істоце зьяўляецца прымітыўным пачаткам балтыцка-фінскае, аднак якраз дзеля гэтага прадстаўляе ў гэтым адношаньні цікавую й вартасную крыніцу для дасьледаваньняў першапачаткаў балтыцка-фінскіх гутарак.

На Ўсходзе эўрапэйскага Савецкага Саюзу раскіданы вацякі й зыране, разам каля аднаго мільёну душ. Падчас, калі гэтыя плямёны належаць яшчэ да фінскага языковага кораня, пражываючых за Уралам у паўдзённа-ўсходняй Сібіры нацякоў й вогулаў трэба лічыць хутчэй як належачых да языковага кораня вуграў, бліжэй зроджаных па языку з вугорскім.

Языковая зродненасьць не ўяўляе сабою і сама па сабе зродненасьць расавую, бо тут ужо ад прадгістарычных часоў адбыліся расавыя зьмяшэньні, якія мацней зьмянілі расавае аблічча ў гэтых народных групах, чым іх аблічча языковае. Для фінска-угрскае філялёгіі (навука аб мове) і паходжаньня народаў зьяўляюцца якраз гэтыя й захаваная яшчэ дасюль на крайнім усходзе Эўропы адгаліненьні фінска-угрскае народнае сям'і вельмі цікавымі. Дзеля гэтага існуючае ў Гэльсінках фінска-угрскае таварыства выдала ўжо рад абшырных публікацыяў аб народным паходжаньні гэтых крэўных балтыцка-фінскіх і угрскіх каранных народаў. Разам з фінскай Акадэміяй Навук, фінскім таварыствам лекараў Дуодэцым і таварыствам Калева апрацавала ўжо фінска-угрскае таварыства далёкасяжную дасьледчую праграму, заданьнем якой зьяўляецца правесьці філялягічныя й этналягічныя досьледы сярод шматлікіх палонных савецкіх жаўнераў фінска-угрскага паходжаньня, акрамя таго зьбіраць іх мэлёдыі й народныя песьні й правясьці антрапалягічныя вымеры й дасьледжаньні крыві. Фінскае міністэрства асьветы дапамагае гэтым працам.

# Бітва ў Міжземным моры ў ангельскім прадстаўленьні

Калі ангельскае адміралцейства і далей утойвае ўласныя страты ў марской і паветранай бітвах у Міжземным моры, то робіць яно гэта яўна з увагі на настроі грамадзянства. Грамадзянства, як сьцвярджаюць шведзкія камунікаты з Лёндану, «страшэнна перапалохана» ужо весткай аб праігранай бітве ў Лівіі. Усім ясна, што палажэньне Рычы крытычнае з усіх бакоў. А цяпер яшчэ й праіграная марская бітва! Вось табе й маеш! Чэрчылю нічога іншага не застаецца, як маўчаць аб гэтым як мага найдаўжэй.

У новым афіцыяльным прадстаўленьні бітвы, праўда. ужо крыху менш брахні, бо раней гаварылася, што караван караблёў даплыў да Мальты й Тобруку. Цяпер-жа ўжо гаворыцца крыху асьцярожней, што апарацыі былі «часткова пасьпяховыя». Частка заспасабляючых караблёў быццам змагла «дарагой цаной асягнуць сваю мэту». Як дарагая была цана, аб гэтым маўчаць, як вады ў рот набраўшы.

Каб даць ангельскаму краю паняцьце аб гіганцкіх труднасьцях і страшэннай рызыцы гэткае прыгоды, апублікоўваецца ўсё больш і больш камунікатаў аб прабегу марское экспэдыцыі. У іх з жалем гаворыцца, што ўжо адплыцьцё каравану з Гібральтару было выкрыта і што варожыя разьведвальныя самалёты не пакідаюць ангельцаў незаўважанымі ані на хвіліну і тады проста сякуць градам бомбаў і тарпэдаў. Прадстаўнік брытанскае газэты «Унітэд Прэс», які быў на палубе аднаго крэйсара, паведамляе, што атакі бамбардыроўшчыкаў і падводных лодак трываюць бязупынна цэлымі днямі. Адзін крэйсар згінуў, рэшта была адкінута ад плыўшага паволі каравану і не змагла яго прыкрываць. І ўночы бомбавыя атакі прадаўжаюцца пры сьвятле кіданых расьсвечваючых бомбаў. Таксама й караван, плыўшы ў Александрыю, які быў зьнянацка нападзены паміж Крытам і Дэрнай, перадае аб бязьлічных атаках. Ад поўдня да вечара сыпаўся град бомбаў, а ўночы падводныя лодкі прадаўжалі тарпэдныя атакі. Артылерысты ангельскіх караблёў гэтак былі перамучаны, што ў кожным перапынку бою апускаліся каля гарматаў і зараз-жа засыналі.

У новых ангельскіх камунікатах аб баёх у Мармарыцы гаворыцца, што гэнэрал Рычы ня можа тымчасам прадпрыняць ніякай контрафэнзывы, ужо хоцьбы па прычыне вялікіх стратаў матарыялу. Ангельскія карэспандэнты з фронту ня прызнаюцца ў паражэньні галоўных танкавых баявых сілаў, якія трапілі ў «пастку» нямецкае артылерыі. «Дэйлі Экспрэсс» паведамляе, што ангельскія войскі адрэзаны шэсьць разоў і збамбардаваныя, засыпаны агнём гранатаў і кулямётаў а таксама разьбіты камбінаванымі атакамі пяхоты й танкавых часьцей. «Дэйлі Тэлеграф» лічыць, што цяпер трэба было-б танкавыя часьці азброіць у вадным з умацаваных становішчаў. «Дэйлі Экспрэс» заяўляе, што «нешта падобнае зроблена якраз няправільна ў Лівіі». А «Таймс» жаліцца, што ваеннае шчасьце, нажаль, павярнулася на карысьць ворага. Немцы пераважаюць новачаснай зброяй і якасна і колькасна.

# ВЫПАДАК

Вус толькі пачаў сыпацца Стасюку Сырамяку, як кінуў ён родную хату і ў сьвет пайшоў. Вось так звычайна — узяў і пашоў. З бацькамі мабыць заспорыў. Жаніцца ён хацеў, а бацькі не пазволілі. Толькі ўзяў ён гэта так моцна да сэрца, што і вёску родную кінуў і ў сьвет паплёўся.

А як вышаў, дык і сьлед па ім прапаў. Шкадавалі бацькі —ведама, роднае дзіця. Хай ужо жаніўся-бы, думалі. Але ўжо позна было.

Толькі на чацьверты год Стасюк адазваўся. Ліcьмо бацькам прыслаў.

— У горадзе я цяпер жыву, — пісаў — на чыгунцы памоцнікам машыніста ежджу. Цягнікі з таварам важу.

Вельмі ўцешыліся бацькі. Ведама, такое здарэньне — сын родны адазваўся. Цягнікі з таварам возіць. Зараз уся вёска пра той ліст даведалася. Пачалі тут узцыхаць да ахаць. І зайздросьціць пачалі.

А стары Сымон Сырамяка на'т лапці скінуў. У ботах хадзіць пачаў.

— Не выпадае мне — казаў —у лапцёх, як кожнаму мужыку, хадзіць. Мой сын у горадзе жыве. Цягнікі з таварам возіць.

І так заганарыўся, што на'т знаёмым кланяцца перастаў.

Прашло крыху часу і задумаў стары Сымон у горад ісьці. Значыцца, каб сына ўбачыць. Паглядзець, як той у горадзе жыве і цягнікі водзіць.

Высмараваў Сымон дзёгцем боты і сарочку новую адзеў. Скібу хлеба і сала кусок у торбу ўлажыў. Закінуў яе на плечы і да прысутных зьвярнуўся.

— Хутка мяне назад не спадзявайцеся. Доўга, мусіць, гасьціць буду. Сын мяне назад на цягніку прывязе.

Патакалі яму людзі галовамі. І дарогу зрабілі. Ведама, пашана.

Прышоў Сымон у горад і пачаў народу пытацца. Гдзе, значыцца, сын яго Стасюк Сырамяка жыве. Цягнікі з таварам па чыгунцы во.

Пацiскалі тут людзі плячыма. Пасьмяяліся над Сымонам.

— Дурны ты яшчэ мужык.

— Гэта табе ня вёска. Шмат тут народу жыве. Не адзін таксама і цягнікі возіць.

Так і не даведаўся нічога Сымон. Хацеў ужо назад дамоў ісьці, сына не пабачыўшы. Але парадзіў яму нехта, каб на станцыю даведацца пайшоў.

Зайшоў Сымон на станцыю. Пытаецца.

Ёсьць.— кажуць — такі Стасюк Сырамяка. Бяжы, вось, дзядзька, да таго паравозу, што на бакавым торы стаіць. Там сына знойдзеш.

Кінуўся тут Сымон праз рэйкі скакаць. Чуць ног не пакруціў. Зусім задыхаўся, пакуль да паравозу прыбег. Бачыць—і сапраўды яго сын стаіць. Мазь нейкую на колы льле.

Кінуліся яны да сябе і вітацца пачалі. А стары на'т прасьлязіўся. Ведама, чатыры гады сына ня бачыў. Селі яны на рэйкі. Закурылі. Пра жыцьцё сваё пагутарылі. Пасьля зноў пачаў Сымон сына аглядаць.

— Малайчына ты у мяне — дзівіўся

— Бач якім асілкам вырас. І вусы як вехі загадаваў. Мусіць дзеўкі самі за табой лётаюць?

Усьміхнуўся тут хітра Стасюк, а стары далей выказвацца пачаў.

— А можа ты жаніцца сынку хочаш? Аўдоля яшчэ ў дзеўках сядзіць, на цябе чакаючы. Мы з мацерай бараніць ужо ня будзем.

Сказаў, і на сына паглядзеў, здаволены, што за старое адкупіцца можа. Але Стасюк скрывіўся толькі і плячыма пацiснуў.

— Дзіўны ты, бацька. Ня буду-жа я з нейкай вясковай клемпай жаніцца. Хай яе трасца з Аўдуляй. За мяне цяпер машыністы або кандуктара дачка выйсьці можа. Хадзі лепш паравоз табе пакажу.

Зашчаміла тут ад радасьці Сымона, што сын такім разумніцай стаўся. Аж патакнуў яму здаволены. І пашлі яны паравоз аглядаць.

Недалёка ад іх той паравоз і знаходзіўся. Пад парай ужо стаяў, у дальнюю дарогу нарыхтованы. Абыйшлі яны яго навокал. А Стасюк усю мэханіку старому тлумачыць пачаў.

— Вось тутака вада і вугаль знаходзіцца.. У гэтай будцы мы езьдзім... А гэта кацёл — ваду грэе і пару робіць, бо парай гэту быдляку цягне.

Падзівіўся Сымон. Патыліцу пачухаў.

— Добрая штука — кажа. — Вось

